
VERTIGO
WILLINGHAM
BUCKINGHAM
LEIALOHA
FABLES™
july 04 2.50 can 3.85
no. 25
SUGGESTED FOR MATURE READERS vertigocomics.com
COMICS .BY
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ
ПАДАННІ #25
ПЕРАКЛАД:
АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ:
COMICSBY
COMICSBY.BY
VK.COM/COMICS_BY

ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**

# FABLES

ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**

АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ
КОЗЫРАЎ**

# 4










НАША ПРАВА ДЫКТАВАЦЬ ЗЫХОД
Глава шостая. Марш драўляных салдатаў
BILL WILLINGHAM writer/creator
MARK BUCKINGHAM penciller, inks: pp. 5-7, 16, 20-21
STEVE LEIALOHA inker
DANIEL VOZZO color/seps
TODD KLEIN lettering
JAMES JEAN cover art
MARIAH HUEHNER assistant editor
SHELLY BOND editor
МЫ НА САМОЙ СПРАВЕ ЕДЗЕМ НА ВАЙНУ, ВЕЛУНД?
Я ЖАДАЎ БЫ ДУМАЦЬ, ШТО НЕ. Я СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ГЭТА ВЯЛІКАЯ ПАМЫЛКА ЦІ БЕСПРЫЧЫННАЯ БАЛБАТНЯ.
АЛЕ ПРАЎДА Ў ТЫМ, ШТО ТАК. Я ВЕРУ, ШТО ГЭТА ТАК.
АЛЕ ЧАМУ МЫ, ТАТ?
НАВОШТА НАМ ДОБРААХВОТНА ІСЦІ З ІМІ? АДДАЦЬ СВАЁ ЖЫЦЦЁ НА ФРОНЦЕ, КАБ ДАПАМАГЧЫ КАЗАЧНЫМ, ЯКІЯ ПРЫМУШАЛІ НАС ЦЯГНУЦЬ ПЛУГ ПА 12 ГАДЗІН У ДЗЕНЬ.
SUNNYSIDE FARMS
ЯКІ МЫ БУДЗЕМ ЦЯГНУЦЬ ЯШЧЭ 98 ГАДОЎ, БУ, КАЛІ ЗНОЎ НЕ ПАКАЖАМ НАШУ ЛАЯЛЬНАСЦЬ ДА ЎЛАДЫ.


ШТО ВЫ РОБІЦЕ? ВЫ НЯ МОЖАЦЕ ПРОСТА ТАК ПАСТАВІЦЬ БАРЫКАДЫ НА ВУЛІЦЫ ПРАЗ УВЕСЬ НЬЮ-ЁРК!
БЕЗУМОЎНА, МЫ МОЖАМ, АФІЦЭР. МЫ АТРЫМАЛІ ДАЗВОЛ, КАБ ПЕРАКРЫЦЬ ВУЛІЦУ БУЛФІНЧ ДЛЯ ДЭМАНСТРАЦЫІ МЕНАВІТА ТУТ.
FORD LAUNDROMAT
NOD'S BOOKS
LEWIS ANTIQUES
АЛЕ ЦЭМЕНТНЫЯ БАРЫКАДЫ? БОЛЬШ ПАДОБНА, ШТО ВЫ ПАДРЫХТОЎВАЕЦЕСЯ ДА ЎВАРВАННЯ.
ПРАЦЯГВАЙЦЕ ПРАЦУ, ХЛОПЦЫ. ПРЫНЦ ПАКЛАПАЦІЦЦА ПРА ЦІКАЎНЫХ ПРАСЦЯКОЎ.
НЯ ТРЭБА ДРАМАТЫЗАВАЦЬ. МЫ ЗАКРЫТАЯ СУПОЛЬНАСЦЬ, ЯКАЯ ЎСЁ ЯШЧЭ ПРЫТРЫМЛІВАЕЦЦА СВАІХ ДЗІЎНЫХ ТРАДЫЦЫЙ СА СТАРЫХ КРАІН.
МЫ ПРОСТА ЖАДАЕМ ЗАСТРАХАВАЦЬ НАША ЧАСНАЕ ЖЫЦЦЁ ПАДЧАС КУЛЬТУРНАГА СВЯТА. І ТОЛЬКІ.
ДОБРА. ДАЗВОЛ ВЫГЛЯДАЕ НАРМАЛЬНА.
ПРОСТА ПЕРАКАНАЙЦЕСЯ, ШТО Ў ВАС ЁСЦЬ УСЁ, ШТО ПАТРЭБНА, КАБ ПРЫБРАЦЬ УСЁ ДА ПАСЛЯЗАЎТРА.
ЗРАЗУМЕЛА, АФІЦЭРЫ, І ВЫ АБОДВА БЕРАЖЫЦЕ СЯБЕ. МЫ ЗАЎЗЯТЫЯ АРГАНІЗАТАРЫ НЬЮ-ЁРКСКІХ ТРЫЎМФАЎ.


ПРАБЛЕМА ВЫ-РАШАНА. І ЯК ІДЗЕ ВАША ЧАСТКА БАРАЦЬБЫ, СПАДАРЫ?
УСЁ ВЫДАТНА, СПАДАР ПРЫНЦ, СЭР.
ГЭТЫЯ БРУДНЫЯ БОЧКІ ЦАЛКАМ ЗАМАЦАВАНЫЯ Ў ЦЭМЕНЦЕ, АЛЕ...
ЦУДОЎНА. ТЫ МАЛАЙЧЫНА. ДА ПОЎДНЯ У НАС БУДУЦЬ СЦЕНЫ, ЯКІЯ БУДУЦЬ ПЕ-РАКРЫВАЦЬ КАНЕЦ ВУЛІЦЫ БУЛФІНЧ, ДЗВЕ БОЧКІ Ў ВЫ-ШЫНЮ І, ПРЫНАМСІ, ДЗВЕ ЎШЫРКІ.
ПАЙШЛІ СА МНОЙ, МУХ.
Э-Э... ДОБРА.
ЧЫЕ ГЭТА АЎТАМАБІЛІ? ЯНЫ НАШЫ?
ТАК, СЭР. ЯНЫ ПРЫНАЛЕ-ЖАЦЬ ЖЫХАРАМ ФЭЙБЛТАЎНА. У НАС ЁСЦЬ ЗАКЛІНАННІ, ЯКІЯ ЎТРЫМЛІВАЮЦЬ ЗВЫЧАЙНЫХ АД ПАРКОЎКІ.
ДОБРА. МЫ БУДЗЕМ ССОЎВАЦЬ ІХ У ТУГІ ПАЎКРУГ ТУТ, ПАДАЛЕЙ АД УНУТРАНЫХ БАРЫКАД, АХОЎВАЮЧЫ ЎВАХОД У ВУДЛЭНД.
ГЭТЫ ТЫП ВАЙНЫ ЗАЛЕЖЫЦЬ АД СЕРЫІ АДЫХОДЗЯЧЫХ МАНЕЎРАЎ, ЯКІЯ ІДУЦЬ АДЗІН ЗА АДНЫМ.
МЫ СКАРЫСТУЕМ ФАСАД БУДЫНКА ВУДЛЭНДА ЯК НАШ АПОШНІ РЭДУТ.
А НЯ ШМАТ ПРАЦЫ, КАБ АБАРАНІЦЬ СЯБЕ АД ТРОХ ДРАЎЛЯНЫХ БАЕВІКОЎ?
ТРОХ, ПРА ЯКІХ МЫ ВЕДАЕМ.
АЛЕ ХТО ВЕДАЕ, КОЛЬКІ ІХ НА СА-МОЙ СПРАВЕ?


ЗВЯРНІЦЕ ЎВАГУ, БРАТЫ.
ПА-ПЕРШАЕ, БУДЗЬ-ЦЕ АСЦЯРОЖНЫМІ, КАЛІ БУДЗЕЦЕ АДЧЫНЯЦЬ КОЖНУЮ СКРЫНЮ, КАБ НЕ ПАШКОДЗІЦЬ КАШТОЎНАЕ ЗМЕСЦІВА.
ПОТЫМ ДАСЛЕДУЙ-ЦЕ КОЖНУЮ ЧАСТКУ, РАСПАКАВАЎШЫ ЯЕ, І ПЕ-РАКАНАЙЦЕСЯ, ШТО ЯНА СПРАЎНАЯ І ФУНКЦЫЯНУЕ.
Я ЗАСЦЕРАГАЮ, КАБ ВЫ БЫЛІ НАЙБОЛЬШ АСЦЯРОЖНЫМІ З ГА-ЛАВОЙ І РУКАМІ.
ТРЫ ЧАСТКІ ВЫРАЗАНЫ САМІМ СТВАРАЛЬНІКАМ І ЗАЧАРАВАНЫ ДЛЯ ЖЫЦЦЯ СЯРОД МЯСАГАЛОВЫХ.
БРАТ ЛУ! ЯК ДОБРА ЦЯБЕ БАЧЫЦЬ ЗНОЎ!
ВІТАЮ, БРАТ РЭНДАЛЬФ. СПАДЗЯЮСЯ, ВЫ ДОБРА ПРАВЯЛІ ЧАС У ГЭТЫЯ ДНІ ПЕРАВОЗКІ І ЗАХОЎВАННЯ.
ВЕЛЬМІ ДОБРА, БРАТ. НА САМОЙ СПРАВЕ МНЕ АМАЛЬ НЕ ЖАДАЛАСЯ ПАКІДАЦЬ ЦЕ-ПЛЫНЮ І ЎТУЛЬНАСЦЬ МАЁЙ КАМФОРТНАЙ УПАКОВАЧНАЙ СКРЫНІ.


ЧАС БРАЦЦА ЗА ПРАЦУ, БРАТ РЭНДАЛЬФ. ПАСЛЯ ДАСТАВАННЯ НАКІРОЎВАЙЦЕСЯ ДА ПУНКТА ДВА, ДЛЯ ЗБОРКІ.
STATION 1
БРАТЫ, ЯК ТОЛЬКІ ВАС ЗБЯРУЦЬ, ВАШЫМ АБАВЯЗКАМ СТАНЕ ПОЎНАЯ ПРАВЕРКА РУХАВАСЦІ.
КАЛІ НЕШТА ВЕЛЬМІ ТУГА ЦІ ВОЛЬНА, ВЫПРАЎЦЕ ГЭТА ТУТ, ПЕРШ ЧЫМ ПРАЙСЦІ ДА ГАРДЭРОБА.
STATION 2
STATION 3
ПЕРАКАНАЙЦЕСЯ, ШТО ВЫ АТРЫМАЛІ АДНУ САРОЧКУ, АДНУ ПАРУ ШТАНОЎ, АДЗІН ПІНЖАК, АДЗІН ГАЛЬШТУК, АДНУ ПАРУ НАСКОЎ, АДЗІН ЛЕВЫ І АДЗІН ПРАВЫ ЧАРАВІК.
ПРА ПАМЕРЫ НЕ ХВАЛЮЙЦЕСЯ. ЯНЫ ЎСЕ АДНОЛЬКАВЫЯ.
STATION 4
ЯК ТОЛЬКІ ВЫ АПРАНЯЦЕСЯ, НАКІРОЎВАЙЦЕСЯ ДА ПУНКТА ПЯЦЬ ЗА ВАЛАСАМІ. ПОТЫМ НАКІРОЎВАЙЦЕСЯ ДА ПУНКТА ШЭСЦЬ ЗА ЗБРОЯЙ.
КАЛІ Ў ВАС ЁСЦЬ ПЕРАВАГІ Ў КОЛЕРЫ ВАЛАСОЎ, СКАЖЫЦЕ ПРА ГЭТА ЗАРАЗ, ІНАКШ ВЫ БУДЗЕЦЕ ВЫМУШАНЫ ШУКАЦЬ КАГОСЬЦІ, ХТО АБМЯНЯЕЦЦА З ВАМІ.
STATION 6
НЯ ЎСЕ АТРЫМАЮЦЬ ЗБРОЮ, ЯЕ ВЕЛЬМІ МАЛА. КАЛІ ВАМ НЯ ДАЛІ ЗБРОЮ, ТРЫМАЙЦЕСЯ ПОБАЧ З БРАТАМ, У ЯКОГА ЯНА ЁСЦЬ. КАЛІ ЁН ЗАГІНЕ Ў БІТВЕ, ПРЫМІЦЕ МАЕ ВІНШАВАННІ – У ВАС З'ЯВІЛАСЯ ЗБРОЯ.
ЯК ТОЛЬКІ ВЫ ЦАЛКАМ ЗБЯРЭЦЕСЯ, АПРАНЯЦЕСЯ І ЎЗБРОІЦЕСЯ – НАКІРОЎВАЙЦЕСЯ ЎНІЗ ДЛЯ ПЛАНАВАННЯ МІСІІ І НАВУЧАННЯ.


ЧАМУ ВЫ НЕ Ў ПАСЦЕЛІ, МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК?
Я ВЫПІСВАЮСЯ І ВЯРТАЮСЯ Ў ФЭЙБЛТАЎН.
НАДЫХОДЗІЦЬ БІТВА, ДОКТАР СВІНОЕ СЭРЦА, І Я ЯЕ НЕ ПРАПУШЧУ.
НОНСЭН, ВЫ НЯ Ў ФОРМЕ...
Knights of Malt
HOSPITA
GET WELL
BLUE
ПАГЛЯДЗІЦЕ НА МЯНЕ, ПАГЛЯДЗІЦЕ НА ТОЕ, ШТО ЯНА ЗРАБІЛА З МАІМІ РУКАМІ!
ВЫ САПРАЎДЫ ЛІЧЫЦЕ, ШТО Я КАЛІ-НЕБУДЗЬ ЗМАГУ ІГРАЦЬ НА ТРУБЕ З ТАКІМІ РУКАМІ?
Я САМЫ ТАЛЕНАВІТЫ ХІРУРГ У СВЕЦЕ. КАЛІ АПЕРАЦЫЮ ПРАВОДЗІЎ Я, ЁСЦЬ ВЯЛІКІ ШАНЦ, ШТО ВЫ АДНОВІЦЕ БОЛЬШУЮ ЧАСТКУ...
ГЭТА КУРВІСКА ЗАПЛАЦІЦЬ ЗА ТОЕ, ШТО ЗРАБІЛА!
ЭМ, МАГЧЫМА, СПАЧАТКУ ТРЭБА БЫЛО АПРАНУЦЦА.


Я Б ЖАДАЛА СКАРЫСТАЦЬ ВАС У БІТВЕ.
НА ЖАЛЬ, ВЫ СПАТРЭБІЦЕСЯ Ў БОЛЬШ ВАЖНАЙ СПРАВЕ.
НАВАТ КАЛІ МЫ ПЕРАМОЖАМ У ГЭТЫМ БАІ, МЫ ЗГУБІМ УСЁ КАЛІ ЗВЫЧАЙНЫЯ ШТО-НЕБУДЗЬ УБАЧАЦЬ.
Я НЕ ДАЗВОЛЮ ГЭТАМУ АДБЫЦЦА. Я ПАТРАЦІЛА ШМАТ ГАДОЎ НА ТОЕ, КАБ ПАБУДАВАЦЬ ФЭЙБЛТАЎН, Я НЕ МАГУ ЗГУБІЦЬ ЯГО.
ВАШЫМ АДЗІНЫМ КЛОПАТАМ БУДЗЕ НЯ ДАЦЬ ЗВЫЧАЙНЫМ УБАЧЫЦЬ ЦІ ЗАПОМНІЦЬ ШТО-НЕБУДЗЬ З ТАГО, ШТО БУДЗЕ АДБЫВАЦЦА ТУТ У БЛІЖЭЙШЫЯ ДВА-ТРЫ ДНІ.
ГЭТА БУДЗЕ ЖУДАСНА ДАРАГА, МІС СНЕЖКА, ХІБА ФЭЙБЛТАЎН ЗМОЖА ДАЗВОЛІЦЬ САБЕ ТАК ШМАТ ДАРАГІХ ЧАР.


У ГОРАДЗЕ АБВЯСЦІЛІ НАДЗВЫЧАЙНАЕ СТАНОВІШЧА, І ЯК ДЗЕЯЗДОЛЬНЫЯ КАЗАЧНЫЯ, ВЫ БЫЛІ ЗАКЛІКАНЫ ВЫКОНВАЦЬ СВОЙ АБАВЯЗАК.
ПРАЧЫТАЙЦЕ ВАШЫ КОПІІ ДАГАВОРАЎ З ФЭЙБЛТАЎНАМ. НА ПРАЦЯГУ ГЭТАГА КРЫЗІСУ ВЫ ПРАЦУЕЦЕ БЯСПЛАТНА.
ДОБРА.
МЫ ПАСПРАБУЕМ ДАПАМАГЧЫ.
ВЫДАТНА, ЗАРАЗ АБМЯРКУЕМ, ШТО МЕНАВІТА ВЫ БУДЗЕЦЕ РАБІЦЬ.


ХАВАЙЦЕ ВАШЫХ СЫНОЎ І ДАЧОК, ХЛОПЦЫ! КАЗАЧНЫЯ З ФЕРМЫ ЎЖО ТУТ!
ВІТАЮ, МІС ЧЫРВАНЬ! МЫ Ў ГОРАДЗЕ СУМАВАЛІ ПА ВАМ.
Я ТАКСАМА, МУХ, Я ЎЖО І ЗАБЫЛАСЯ, ЯКІ ТЫ ЦУДОЎНЫ СЭРЦАЕД. ДОБРА, ШТО Я СЯДЖУ, А ТО У МЯНЕ НОГІ ПАДКОШВАЮЦЦА.
КАЖУЧЫ ПРА СЭРЦАЕДАЎ, Я РАЗУМЕЮ, ШТО МЫ ПАВІННЫ ПАДЗЯКАВАЦЬ ТАБЕ ЗА ПАЗБАЎЛЕННЕ АД СІНЕБАРОДА. ФАЙНА ЗРОБЛЕНА, ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ.
ПРЫЕМНА ГЭТА ЧУЦЬ. ПРОСТА ЎСПОМНІ ГЭТА Ў ДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ.
І ЧАГО Ж ТЫ ЖАДАЕШ, КАЎБОЙ?
ВЫГРУЗІЦЬ УСЁ ЎНУТРЫ ВУДЛЭНДСКАГА ДВОРЫКА.
ТЫ ГУЛЯЕШ З АГНЁМ З САДАМ АДДАНАГА ДЖОНА.
ЁН НЕ ПЯРЭЧЫЦЬ. ЁН УСЁ ЯШЧЭ Ў ШПІТАЛІ ПАСЛЯ ТАГО, ЯК ЯГО ПАДСТРЭЛІЛІ МІНУЛАЙ НОЧЧУ.


ПЕРАКАНАЙЦЕСЯ, ШТО КОЖНЫ АТРЫМАЎ ПА РАЦЫІ.
КОЖНЫ? ГЭТАГА НЯ ХОПІЦЬ, МІС СНЕЖКА. У МЯСЦОВАЙ РАДЫЁКРАМЕ ТОЛЬКІ 12 РАЦЫЙ НА ПРОДАЖ.
НЯ КОЖНАМУ, А КОЖНЫМ... ЯК МЫ ІХ НАЗЫВАЕМ? ЛІДЭРАМ ГРУПЫ?
ЛІДЭРАМ УЗВОДА?
ЛІДЭРАМ СЕКЦЫЙ?
НАПРАМІЛЫ БОЖА! МЫ НЯ ЗНОЙДЗЕМ АГУЛЬНУЮ МОВУ Ў ГЭТАЙ СПРАВЕ. ЯК МЫ МОЖАМ ПРЭТЭНДАВАЦЬ НА ТОЕ, КАБ КІРАВАЦЬ ВОЙСКАМІ?
ПРОСТА НЕ ДАПУСКАЙЦЕ ХІСТАННЯЎ У ПЕРШЫХ РАДАХ І ЎСЁ БУДЗЕ ДОБРА.
ДОКТАР СВІНОЕ СЭРЦА? ПАСТУШОК?
БОЖА, ШТО ВЫ ТУТ РОБІЦЕ?
ПАДРЫХТОЎВАЕМ МЕДЫКАМЕНТЫ. КАЛІ АФІЦЫЙНА.


І, ЗРАЗУМЕЛА, ПАДРЫХТОЎВАЕМСЯ ДА СЛУЖБЫ.
НЯ Ў ГЭТЫМ СПРАВА. ШТО ПАСТУШОК РОБІЦЬ ЗА МЯЖОЙ ШПІТАЛЯ? І ШТО ТЫ З ІМ РОБІШ?
ХІБА ГЭТА НЯ ДЗІЎНА? Я ПРЫВЯЗВАЮ ЯГО РУКІ ДА ЗБРОІ. ЯНЫ НАСТОЛЬКІ ПАКАЛЕЧАНЫЯ, ШТО ЁН САМАСТОЙНА НЯ МОЖА ЯЕ ТРЫМАЦЬ.
АЛЕ ЁН НЯ Ў ФОРМЕ! ПАСТУШОК, ТЫ ПАВІНЕН ВЯРНУЦЦА Ў ЛОЖКА, ЗАРАЗ ЖА!
Я ЗАСТАЮСЯ.
СВІНОЕ СЭРЦА, ВЫ ЖА ДОКТАР! ЯК ВЫ МОЖАЦЕ БЫЦЬ ЧАСТКАЙ ГЭТАЙ ЛУХТЫ?
ТАМУ ШТО Я ВАЕННЫ ЎРАЧ. НАЙЛЕПШЫ ЗА ЎСЮ ГІСТОРЫЮ ВОЙНАЎ.
НАШЫ МЕТАДЫ АДРОЗНІВАЛІСЯ З ДАКЛАДНАЙ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ПРАКТЫКАЙ У ТЫМ, ШТО НАС ЧАСТА ВЫКЛІКАЛІ, КАБ МЫ ЛЯЧЫЛІ САЛДАТАЎ НАСТОЛЬКІ, КАБ ЯНЫ ЗМАГЛІ ВЯРНУЦЦА Ў БОЙ.
Я НЯЗЛОМНЫ, СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА. Я НЯ БУДУ СЯДЗЕЦЬ ТУТ.
ВЫ ЎСЕ ЛУНАЦІКІ Ў ГЭТЫМ ВЭРХАЛЕ.
У ТАКІМ ВЫПАДКУ ВАРУШЫЦЕСЯ, ДЖЭНТЛЬМЭНЫ, І ВЫ ЗМОЖАЦЕ ПАЧУЦЬ МАЮ ПРАМОВУ ПЕРАД ВОЙСКАМІ.


ТАДЫ ВАРУШЫЦЕСЯ, ДЖЭНТЛЬМЭНЫ, КАБ ПАЧУЦЬ МАЮ ПРАМОВУ ПЕРАД ВОЙСКАМІ.
ДОБРА. ТЫ ВЕДАЕШ ЯЕ ТАКСАМА, ЯК І Я. СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ЯНА ПРА ЎСЁ ЗАБУДЗЕЦЦА ПАСЛЯ БІТВЫ.
KNOCK
KNOCK
АХ, ВОСЬ ТЫ ДЗЕ. ТЫ НЕ АДКАЗАЛА ТАДЫ, ТАМУ Я ПАДУМАЎ, ШТО ПРЫЙДУ І АДПЯРДОЛЮ ЦЯБЕ, ПАКУЛЬ ТЫ ДОМА.
ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ? ТЫ ШТО...
Я ПАВІНЕН СКАЗАЦЬ, ШТО ТЫ ВЫГЛЯДАЕШ БОЛЬШ ЛЮБА БЕЗ УСІХ ФАМІЛЬЯРНАСЦЯЎ, ПРЫГАЖУНЯ.
НУ ДЫК ДАВАЙ ПАЧНЕМ? Я НЕ ЖАДАЮ ПРАПУСЦІЦЬ ПРАМОВУ СПАДАРЫНІ СНЕЖКІ.
ПАЧНЕМ ШТО?
ХІБА ПАЧВАРА НЕ СКАЗАЎ ТАБЕ? МЫ АБМЕРКАВАЛІ ВЫДАТНУЮ ВЫГАДНУЮ ЗДЗЕЛКУ НАКОНТ ПЯЦІДЗЕСЯЦІ ХВІЛІН ТВАІХ ВЯЛІКІХ ЛАСАК.
ВАМ ТРЭБА ТРОХІ ГРОШАЙ ЗВЕРХУ...
І Я ЗАЎСЁДЫ ПАДТРЫМЛІВАЮ ДОБРУЮ ЮРЛІВУЮ ЗАВАРУХУ ЯКРАЗ ПЕРАД БІТВАЙ, ТАМУ...
ЁН ШТО?
ГЭТА ДАПАМОЖА МНЕ СУПАКОІЦЦА.
Я ЗАБ'Ю ЯГО! Я ЗБІРАЮСЯ...!
ВЫМЯТАЙСЯ, ВЫМЯТАЙСЯ, БРУДНЫ ВЫБЛЯДАК!
ЛІЧУ, ШТО ТРУК СПРАЦАВАЎ. ЗГОДНЫ?
ТАК! ЦЯПЕР Я ГАТОВЫ ДА ВАЙНЫ!


Я НЕ ВАЕННЫ КАМАНДЗІР. У МЯНЕ НЯМА АСАБЛІВАЙ МУДРАСЦІ, ЗА ВЫКЛЮЧЭННЕМ ТАГО, ШТО МНОГІЯ КАЗАЛІ ДА ГЭТАГА.
У НАС БОЛЕЙ НЯМА КРАІНЫ ДЛЯ АБАРОНЫ.
НАШЫ ЗЕМЛІ БЫЛІ СТРАЧАНЫ ШМАТ ГАДОЎ ТАМУ, І Ў НАС БОЛЬШ НЯМА СЦЯГА, ЗА ЯКІ ТРЭБА ЗМАГАЦЦА.
У ФЭЙБЛТАЎНА НЕФАРМАЛЬНЫ СТАТУС АКРАМЯ ТАГО, ШТО Ў НАС У СЭРЦАХ І ДУМКАХ.
КАЛІ МЫ ЎСТУПІМ У БОЙ НОЧЧУ, КАЛІ МЫ ГЭТА ЗРОБІМ, ГЭТА БУДЗЕ ТОЛЬКІ ДЛЯ ТЫХ... ХТО СТАІЦЬ ЗА НАМІ.
ЯК КОЖНЫ САЛДАТ У КОЖНАЙ БІТВЕ Ў ГІСТОРЫІ.
НЕ ЖУРЫЦЕСЯ!
КАЛІ-НЕБУДЗЬ ДРЭННЫЯ ХЛОПЦЫ ЎБАЧАЦЬ МОЦ НАШЫХ УМАЦАВАННЯЎ, НАШАЙ АБАРОНЫ І ГАЛОЎНАЕ, НАШАЙ РАШУЧАСЦІ, І ЯНЫ ЎЦЯКУЦЬ, ПАДЦІСНУЎШЫ ХВАСТЫ.


ХУТЧЭЙ ЗА ЎСЁ, ЯК ТОЛЬКІ МЯСАГАЛОВЫЯ ЎБАЧАЦЬ НАШЫ РАДЫ, ЯНЫ ПРОСТА ПЕРАВЯРНУЦЦА І ПАЧНУЦЬ ГАЛАСІЦЬ.
ЯК ТОЛЬКІ ЯНЫ ПАЗДАЮЦЦА, МЫ ПАВІННЫ ПАКАЗАЦЬ АДПАВЕДНУЮ СТРЫМАНАСЦЬ, А НЕ ЗАБІВАЦЬ КАГО ПАПАЛА.
ТОЛЬКІ ТЫХ, ХТО НЕ ПАЖАДАЕ ПАДПАРАДКОЎВАЦЦА.
ЦІ ТЫХ, ХТО НЕ ПАЖАДАЕ НАС ПАВАЖАЦЬ.
ЦІ ПАДАЕ І РАБАЛЕПСТВУЕ МЕНШ АХВОТНА.
МАЕ ДАРАГІЯ БРАТЫ СВЯТОГА ГАЮ - МЫ АДПРАЎЛЯЕМСЯ Ў СЛАВУТАЕ ПАДАРОЖЖА ДЗЕЛЯ НАШАГА ІМПЕРАТАРА.
УСТАНЬЦЕ Ў РАДЫ І ПАДРЫХТУЙЦЕСЯ ВЫХОДЗІЦЬ!


ТЫ СКАЖАШ МНЕ, ШТО ТЫ ЗАДУМАЎ?
МЕНАВІТА ТОЕ, ШТО ЗАГАДАЛА МНЕ ЗРАБІЦЬ СНЕЖКА, ПІНОКІА.
МАЯ ПРАЦА - КЛАПАЦІЦЦА ПРА ЦЯБЕ ПАДЧАС БІТВЫ.
ГЭТА ТОЕ, ШТО Я МАЮ НАМЕР ЗРАБІЦЬ.
ПРА МЯНЕ НЯ ТРЭБА "КЛАПАЦІЦЦА", ДЖЭК. ПА ДЗВЮХ ВАЖНЫХ ПРЫЧЫНАХ.
ПА-ПЕРШАЕ, НАВАТ КАЛІ ДРАЎЛЯНЫЯ САЛДАТЫ НАКІНУЦЦА НА ЎСІХ, ЯНЫ НЕ НАРОБЯЦЬ МНЕ ШКОДЫ.
ТЫ НЯ ЧУЎ, ШТО ЯНЫ СКАЗАЛІ ЎЧОРА ЎВЕЧАРЫ?
Я ІХ ЭКСТРА-СПЕЦ-СУПЕР-ДЭЛЮКС СТАРЭЙШЫ БРАТ.
ХОЦЬ І НЕ ТАКІ ВЯЛІКІ, АЛЕ ЎСЁ Ж ПАВАЖАНЫ СТАРЭЙШЫ БРАТ.
ПА-ДРУГОЕ, КАЛІ ЯНЫ ПАЗДАЮЦЦА І ЎЦЯКУЦЬ, Я ПЛАНУЮ ДОБРААХВОТНА ПАЙСЦІ З ІМІ.
ДЗЕСЬЦІ ТАМ ПРАЦІЎНІК ТРЫМАЕ МАЙГО ТАТУ Ў ПАЛОНЕ І ПРЫМУШАЕ ГАБЛЯВАЦЬ ДЛЯ ЯГО ДРАЎЛЯНЫХ САЛДАТАЎ.
УВЕСЬ ГЭТЫ ЧАС Я ЛІЧЫЎ, ШТО ДЖЭПЕТА МЁРТВЫ, АЛЕ ЦЯПЕР МЫ МОЖАМ СУСТРЭЦЦА.


І, АКРАМЯ ТАГО, ВЫ САПРАЎДЫ ЛІЧЫЦЕ, ШТО ЗМОЖАЦЕ ПАШКОДЗІЦЬ ІМ КУЛЯМІ?
ЯНЫ ДРАЎЛЯНЫЯ САЛДА-ТЫ. ДЛЯ ДЭБІЛАЎ: ЯНЫ ЗРОБЛЕНЫ З ДРЭВА!
ТЫ КАЛІ-НЕБУДЗЬ СТРАЛЯЎ ПА ДЗЕРАВЯШ-ЦЫ? БАЧЫЎ, ЯК ЯНА ПАДА-ЛА ЯК МЁРТВАЯ?
СТРАЛЯЙЦЕ Ў ГЭТЫХ ХЛОПЦАЎ ХОЦЬ ЦЭЛЫ ДЗЕНЬ, ДУРНЫЯ, І ЯНЫ НЯ БУДУЦЬ АД-ЧУВАЦЬ СЯБЕ РЭЧЧУ.
ЛІЧЫШ, ШТО ТЫ ЎСЁ ПРАДУМАЎ, КАРАНТЫШКА?
ТЫ САПРАЎДЫ ЛІЧЫШ, ШТО ЁСЦЬ ШАНЦ, ШТО ТАБЕ ДАЗВОЛЯЦЬ ТРАПІЦЬ НАЗАД У РОДНЫЯ ЗЕМЛІ, КАБ ЗДАЦЬ НАС З УСІМІ ТРЫБУХАМІ ВОРАГУ?
КАЛІ СНЕЖКА ЗАГАДАЛА МНЕ “ДАГЛЯДАЦЬ” ЦЯБЕ, ЯНА НЯ МЕЛА НА ЎВАЗЕ “АБАРАНЯЦЬ” ЦЯБЕ.
МАЕ МЯЧЫ ДЛЯ ТАГО, КАБ ПАСЯЧЫ ТВАІХ БРАТОЎ НА АПІЛКІ.
АЛЕ КАЛІ МНЕ ЗДАСЦА, ШТО ТЫ ЗБІРАЕШСЯ САМ ТРАПІЦЬ У ІХ РУКІ, І НЯ БУДЗЕ НІЯКАГА ІНШАГА ВЫХАДУ, ТО Ў МЯНЕ ЁСЦЬ ПІСТАЛЕТ.
КАБ ЗАБІЦЬ МЯНЕ?
У ЯБЛЫЧАК.


ДОБРЫ ДЗЕНЬ, СПАДАР ГРЫМБЛ.
СПАДАР ХОБС.
З НЕЦЯРПЛІВАСЦЮ ЧАКАЕЦЕ ТРЫЎМФ ГЭТАГА ВЕЧАРА?
МАБЫЦЬ. ПРЫЕМНА, НАРЭШЦЕ, ВЫЙСЦІ БЯЗ ГЭТЫХ ЧАР У СВЕТ.
У ДАДАТАК ДА НЕАБМЕ-ЖАВАНАЙ ЛІЦЭНЗІІ НА ЗА-БОЙСТВА. ВЫ ПРАПУСЦІЛІ СТОЛЬКІ Ж, КОЛЬКІ І Я?
АМАЛЬ, СПАДАР ХОБС. АМАЛЬ. МАБЫЦЬ ЗА-КЛАД ЗРОБІЦЬ ГЭТЫ ПРАЦЭС БОЛЬШ ЦІКАВЫМ?
ЦУДОЎНАЯ ІДЭЯ, МІСТЭР ГРЫМБЛ. ТРОЛЬ СУПРАЦЬ ГОБЛІНА. ЯК МЫ БУДЗЕМ ЛІЧЫЦЬ?
ПА КОЛЬКАСЦІ ГАЛОЎ, САБРАНЫХ У КАНЦЫ СПРАВЫ. ТОЙ, ХТО ПРАЙГРАЕ, АПЛАЧ-ВАЕ ВЯЧЭРУ?
ЗГОДНЫ.


ДЗЕНЬ ПАЧАЎСЯ ДОБРА, АЛЕ ЗАРАЗ ТАК ХАЛОДНА.
НЕНАВІДЖУ САКАВІК.
ПАГЛЯДЗІЦЕ Ў ВАКНО.


ГЭТА ПАРАД?
НЯ ДУМАЮ, МАБЫЦЬ ДЭМАНСТРАЦЫЯ?
НЕ, ЯНЫ ВЕЛЬМІ БЕЛЫЯ, КАБ БЫЦЬ ЧОРНЫМІ НАЦЫЯНАЛІСТАМІ ЦІ ЛАЦІНСКІМІ, ЦІ АЗІЯЦКІМІ.
ЯНЫ ЎСЕ ДОБРА АПРАНУТЫ, МАБЫЦЬ ГЕІ?
Я СУМНЯВАЮСЯ Ў ГЭТЫМ. ІХ КАС-ЦЮМЫ ВЕЛЬМІ КАНСЕРВАТЫЎНЫЯ.
У КОЖНАГА З ІХ ЁСЦЬ ЗБРОЯ.
О, МОЙ БОГ! ТЫ МАЕШ РАЦЫЮ!
ГЭТА, НАРЭШ-ЦЕ, АДБЫЛОСЯ!
ГЭТА МАЛАДЫЯ РЭСПУБЛІКАНЦЫ!
ХІБА ГЭТА БЫЛІ НЕ НА-ЦЫСТЫ?
ЯНЫ ІДУЦЬ НА ЗАХОП НЬЮ-ЁРКА!
ЯК КАЛІСЬЦІ ЯНЫ ІШЛІ НА ПАРЫЖ У 39-М.
А ЯКАЯ РОЗНІЦА?
ЗНАЧЫЦЬ МЭР ДЖУЛІЯНІ ВЕР-НЕЦЦА НАЗАД?


ВОХ ТЫ Ж!
ТРЫВОГА!
ЯНЫ НАБЛІЖАЮЦЦА!
ЯНЫ НАБЛІЖАЮЦЦА!
САЛДАТЫ ІДУЦЬ!
КОЛЬКІ?
СОТНІ!
МАБЫЦЬ ТЫСЯЧЫ!
АХ, БОЖА МОЙ.
Далей:
Бітва за Фэйблтаўн